# МІНСКАЯ ПРАЎДА

Газета заснавана 1 лістапада 1950г.

Аўторак, 23 жніўня 1994 года | № 88 (10788) | Цана 20 руб.

ФАКТЫ • ПАДЗЕІ
АРГУМЕНТЫ • МЕРКАВАННІ

## АБ"ЕКТЫ Ў ПАДАРУНАК

Распачаць новабудоўлю зараз вельмі складана. Добра, калі ў прадпрыемства ёсць магчымасць узвесці жылы дом. Аб"екты ж сацыяльна-культурнага прызначэння — у апошнюю чаргу. Эканамічныя цяжкасці не палохаюць АТ "Забудова": працягваецца развіццё сацыяльнай сферы пасёлка "Чысць", дзе знаходзяцца прадпрыемствы таварыства. Толькі ў апошні час тут адкрыты гандлёвыя кропкі "Элегант", "Верас", "Світанак". Узводзіцца яшчэ адзін гандлёвы цэнтр. Ёсць у "Чысці" новы дзіцячы сад, сярэдняя і музычная школы. Будуецца таксама сучасны спартыўны комплекс.

І вось днямі адбылася яшчэ адна прыкметная падзея: прыняў першых наведвальнікаў магазін каўбасных вырабаў, што працуе ў комплексе з каўбасным цэхам і пякарняй. Апошнія аб"екты здадзены ў эксплуатацыю ў сціслыя тэрміны, да прафесійнага свята будаўніка. Чым не падарунак чысцінцам і самім сабе?

*Валянцін ЛІПНІЦКІ.*

## ДЗЕ КУПІЦЬ КАШУЛЮ?

Такое пытанне не надта хвалюе гараджаніна — былі б толькі грошы. А вось для селяніна яно перарастае ў даволі вострую праблему. Наведайце любы вясковы магазін вобласці. Калі з прадуктаў тое-сёе яшчэ можна купіць, то з прамысловымі таварамі хоць шаром пакаці. Паліцы пустыя. І зусім справядліва абураюцца людзі. Не наездзішся па кожную дробязь у цэнтр. Ды і там не заўсёды набудзеш тое, што табе патрэбна.

Адным словам, як гаворыцца, справа — труба. Добра адладжаны гаспадарчы механізм і цесныя эканамічныя сувязі мы разбурылі, а прапанаваць узамен нічога лепшага не змаглі, за што і расплачваемся зараз. Стаіць прамысловасць. Таму паўсюдна ў магазінах Міншчыны адсутнічае ў продажы прадукцыя трыкатажных фабрык — салігорскай «Купалінка» і Жодзінскай, боцікі жаночыя гумавыя — Капыльскага завода гумаватэхнічных вырабаў. Дзяржынская швейная фабрыка зняла з вытворчасці школьную форменную кашулю — яе не шые ні адно прадпрыемства рэспублікі. Не бачаць пакупнікі тавараў Нясвіжскай і Барысаўскай швейных фабрык, шэрагу іншых прадпрыемстваў вобласці.

— Была б сыравіна, удосталь насыцілі б рынак сваёй прадукцыяй, — гавораць вытворцы, — няхай толькі гандаль не зрывае перадаплату і не разлічваецца з намі праз два-тры месяцы. За гэты час інфляцыя ў некалькі разоў абясцэньвае грошы. Мы ж набываем матэрыялы, як правіла, у камерцыйных структурах (дзяржаўныя ўстановы тут нам нічым не дапамагаюць). Яны ж патрабуюць неадкладнай аплаты. Спознішся на дзень-два, тады ўжо па новай цане патрэбна разлічвацца.

— Рады вам плаціць раней, аднак самі нясём адны страты, — адказваюць гандлёвыя работнікі.

Выходзіць, мы ў зачараваным коле. Як вырвацца з яго, знайсці выхад з тупіка? Аб гэтым і ішла гаворка на нарадзе кіраўнікоў прадпрыемстваў лёгкай прамысловасці вобласці, якую вёў першы намеснік старшыні аблвыканкома А.М.Жук. Размова атрымалася даволі вострая (коратка аб ёй сказана вышэй). У рэшце рэшт, пагадзіліся, што прамысловасць і гандаль павінны шукаць сумесныя шляхі выпраўлення становішча. З тым, каб любы жыхар Міншчыны змог спакойна набыць патрэбны для сябе тавар.

*Пётр СІДАРОВІЧ.*

## КАМБАЙН З ПОЛЯ — ПЛУГ У БАРАЗНУ

Хлебаробы калгаса "Чырвоны сцяг" першыя ў Дзяржынскім раёне завяршылі ўборку збожжавых на ўсёй плошчы. Ураджайнасць па сёлетніх мерках нядрэнная — 26 цэнтнераў з гектара. Поспеху садзейнічалі высокапрадукцыйнае выкарыстанне збожжаўборачнай тэхнікі, самаадданая праца механізатараў. Тут не спасылаліся на эканамічныя цяжкасці, недахоп паліва і запчастак, а рабілі ўсё магчымае, каб у аптымальныя тэрміны ўбраць вырашчаны ўраджай.

Цяпер усе намаганні сканцэнтраваны на падрыхтоўцы глебы да сяўбы азімых. Для гэтай мэты ёсць звыш 30 тон насення азімай пшаніцы і жыта. Вядзецца ўнясенне мінеральных угнаенняў. Штодзённа на гэтай рабоце заняты 2—3 энерганасычаныя трактары.

*Анатоль ШАРАЕЎ.*

## ПАРТЫЯ АДЗІНСТВА І ЗГОДЫ

Дваццаць пятая па ліку партыя зарэгістравана ў Міністэрстве юстыцыі рэспублікі. Яе назва — Усебеларуская партыя народнага адзінства і згоды (УАЗ), на думку старшыні Мікалая Шаляговіча, поўнасцю адпавядае прынцыпам, запісаным у статуце.

У інтэрв"ю карэспандэнту Белінфарма ён адзначыў некалькі адрозненняў новай партыі ад створаных раней. Па-першае, дзве трэці кіраўніцтва — прадстаўнікі раённых і гарадскіх структур улады. Гэта значыць, што партыя імкнецца зрабіць акцэнт на рэгіянальных праблемах Беларусі. Як паказалі выбары Прэзідэнта, палітыка робіцца не толькі ў Мінску. Другая характэрная рыса УАЗ — правядзенне палітыкі нацыянальнай разнастайнасці і дзяржаўнага адзінства. Мікалай Шаляговіч адзначыў, што ўтворана яна ў мэтах вырашэння актуальных сацыяльных і эканамічных задач. Асноўны прынцып, які збіраюцца прапагандаваць яе члены, — міратворчасць. Кіраўніцтва партыі ўпэўнена, што зможа прыняць дзейсны ўдзел у справе вываду краіны з эканамічнага крызісу пры дапамозе праграмы, якую стварылі члены УАЗ. У заключэнне Мікалай Шаляговіч сказаў, што закон, заснаваны на справядлівасці, за які выступае яго партыя, можа прывесці Беларусь да стану адзінства і згоды.

*БЕЛІНФАРМ.*

## САМ НЕ ГАМ І ДРУГОМУ НЕ ДАМ

У горадзе Жодзіна кааператары прадавалі польскую капусту. Качаны дробныя, а за кілаграм 20 тысяч рублёў прасілі — гэта было да дэнамінацыі беларускіх грошай. Таму пакупнікі не жадалі набываць такую прадукцыю. Тады начальства гандляроў прымае "мудрае" рашэнне: вывезці капусту на звалку. Так яна апынулася ў лясным масіве, што непадалёку ад горада. Вадзіцель, якому была даручана такая "сакрэтная" аперацыя, падказаў адрас выкінутай капусты рабочым растворабетоннага вузла. Тыя, дачакаўшыся абедзеннага перапынку, пабеглі да капуснай кучы, дзе набралі нямала пругкіх, храбусткіх качаноў.

Дажыліся мы, людцы, да таго, што "акулы" гандлю лепш выкінуць тавар, а цану не знізяць. Гэта ўстойлівыя сімптомы капіталізму на яго дзікай стадыі, калі бярэ верх прынцып: сам не гам і другому не дам. А што ж нас чакае наперадзе?

Аб гэтым факце расказала смалявіцкая раённая газета "Ленінскі заклік".



## ВЫСАЧЫЛІ...

Некалькі дзесяткаў метраў не дайшла да хаты сваёй маці грамадзянка М., якая вярталася з Польшчы. Наколькі ўдачлівым аказаўся для яе гандлёвы візіт у суседнюю краіну, можна меркаваць па здабычы рабаўнікоў, якія забралі ў жанчыны сумку з рэчамі і 400 долараў ЗША. Здарылася гэта ў вёсцы Цясноўка Клецкага раёна.

*Анатоль ЛІЙКО.*

■ Паразважаем!

## ПАРАДОКС ГІСТОРЫІ

У Смалявічах побач з райвыканкомам, там, дзе раней выстаўлялася наглядная агітацыя, маляўнічыя планы на пяцігодку, дзе звычайна ўстанаўліваліся партрэты перадавікоў сацыялістычнага спаборніцтва, і цяпер стаяць вялікія ромбападобныя шчыты. Праходзячы міма, зацікавіўся, пра што ж расказваюць яны чалавеку. І, прызнаюся, парадаваўся, што кіраўнікі горада і раёна знайшлі што адлюстраваць на гэтых шчытах-транспарантах.

На адным — карта раёна. На другім паведамляецца, што тэрыторыя Смалявіччыны складае 1,4 тысячы квадратных кіламетраў. У раёне 11 сельсаветаў, 192 населеныя пункты...

Усё гэта, напэўна, можна знайсці ў Беларускай энцыклапедыі. Але, паверце, непасрэдна ў райцэнтры гэтыя лічбы і факты ўспрымаюцца інакш: пачынаеш уяўляць якой была гэтая зямля 200 — 300 гадоў назад. А тут, дарэчы, паведамляецца, што першае пісьмовае ўпамінанне пра Смалявічы адносіцца да 1508 года. Уладальнікам паселішча быў князь Канстанцін Астрожскі. У 1721 годзе ў мястэчку налічвалася менш ста двароў.

Цікавае наступнае паведамленне. 1812 год. Летам жыхары Смалявічаў паўсталі, спалілі сядзібу свайго прыгнятальніка Радзівіла...

А як жылі і што перажылі смалевічане за тры стагоддзі пасля таго, як князёў Астрожскіх замянілі Радзівілы? Вядома, можна толькі здагадвацца пра гэта, калі ім нічога іншага не заставалася, як узняцца на паўстанне... Праўда, гэта неяк не вяжацца з меркаваннем, што той час быў "залатым векам Беларусі" ў складзе Вялікага княства Літоўскага.

А якім жа векам для Смалявічаў быў савецкі перыяд? 1924 год — мястэчка стала цэнтрам раёна, 1930 — створана першая МТС, 1931 — выйшаў першы нумар раённай газеты "Ударнік"...

Шпаркімі тэмпамі развівалася смалявіцкая зямля пасля Вялікай Айчыннай вайны. Праца людзей, сэрцы якіх поўніў высокі энтузіязм, узняла з руін не толькі гарпасёлак, але і сотні навакольных вёсак. Запрацавалі торфапрадпрыемствы, бройлерная фабрыка, заводы. Паявілася дзіцяча-юнацкая спартыўная школа, стадыён, новая раённая бальніца. Ужо ў 1968 годзе пасёлак набыў статус горада. А колькі выдатных людзей вырасла на гэтай зямлі! Сярод іх — акадэмік В.Шэмпель, паэт Я.Семіжон і многія іншыя. Героі вайны і Героі працы.

Галерэю шчытоў-транспарантаў замыкае коннік на ўздыбленым кані з мячом у руках... Не, не варта ўпікаць кіраўнікоў горада і раёна за тое, што ён тут аказаўся. Яны ўсё зрабілі правільна. Сёння мы вымушаны пакланяцца сімвалу, які некалі ўслаўляў паходы літоўскіх князёў па нашай зямлі і быў заклікан сцвярджаць іх нязменнае права быць тут гаспадарамі. Нашы продкі не прымалі яго. А мы...

*Іван АБАБУРКА, аглядальнік "Мінскай праўды".*

■ Рынок труда

## МЕСТА — ТОЛЬКО ДЛЯ РАБОЧИХ

**В наше нестабильное время, когда резко сокращаются объемы производства, лишиться работы может каждый. Сотни солигорцев за последние два года потеряли работу. Безработица в городе растет. Комментирует ситуацию директор городского центра занятости населения Нина ПИВАШ:**

— На 1 августа этого года на учете в центре было 3.035 безработных. Трудоустроено с начала года 220 человек. Рост безработицы за последние три месяца стабилизировался. Исключение составил лишь недавний случай, когда из производственно-торговой фирмы "Калинка" нам подали списки на сокращение 120 человек (позже 80 из них были приняты обратно). Но около 40 человек пополнили списки безработных.

Пособия по безработице в центре получают 1.592 человека. Выплаты производятся только шесть месяцев, в течение каждого 12-месячного периода со дня регистрации в государственной службе занятости, а размер их составляет не более двух и не менее одной минимальных заработных плат. Причем размер пособия зависит от средней зарплаты трудящегося (ныне — безработного) на последнем месте работы. К тому же для назначения пособия по безработице гражданин обязан представить в государственную службу занятости декларацию о доходах.

***— Кроме учета, социальной защиты безработных сотрудники центра занятости занимаются их профессиональной подготовкой. Как организовано это дело, находят ли люди работу?***

— Наш специалист В.Н.Титова закладывает в компьютер профессиональные данные на безработных, проводит с ними тестирование, следит за их переподготовкой. Безработные переучиваются в межшкольном учебно-производственном комбинате, в учебном комбинате производственного объединения "Беларуськалий", республиканском центре "Логорит". В январе-июне 1994 года мы переобучили 67 человек, из них 3 получили специальность машинистов котлов, 4 — слесарей-ремонтников, 20 — швей, 13 — продавцов. Среди получивших вторую специальность 13 бухгалтеров, 4 оператора ЭВМ. Из числа тех, кто прошел переобучение, 36 бывших безработных трудоустроены. Это неплохой показатель. Переподготовка дает молодежи хороший шанс на получение работы, так как молодые люди имеют уже две специальности.

***— На пороге осень. К активной трудовой деятельности приступят выпускники школ, училищ, техникумов, вузов. Какова перспектива их трудоустройства?***

— Скажу прямо: не радужная, хотя отчаиваться не стоит. Предприятия города ежемесячно дают нам информацию о наличии свободных мест. В июне на предприятиях было 78 вакантных мест, из них 71 — для рабочих.

***— Работа центра занятости населения связана с руководством, кадровыми службами предприятий. Как они выполняют решение горисполкома о бронировании рабочих мест для трудоустройства лиц, нуждающихся в социальной защите?***

— Согласно постановлению горисполкома, на предприятиях квотировано 810 мест. Трудоустроено только 108 человек. Руководители заводов и фабрик не спешат выполнять это решение, хотя оно затрагивает интересы людей, нуждающихся в социальной защите. Правда, следует учесть: нынче предприятиям надо выживать в сложных экономических условиях. Но человеческая судьба главнее.

***— С целью создания новых рабочих мест горисполком рекомендовал руководителям предприятий и организаций расторгнуть трудовые договоры с ветеранами труда...***

— Рекомендация городских властей выполнена. На каждом предприятии проведено сокращение пенсионеров. Например, в производственном объединении "Беларуськалий" только в текущем году уволено 96 пенсионеров. Калийщики также создали более 300 рабочих мест благодаря открытию швейного производства, цеха грануляции, мясоперерабатывающего цеха. Однако на новые рабочие места у них в основном переведены свои люди из других цехов. Новые рабочие места создает администрация домостроительного комбината. Вместе с тем, пока еще рано говорить о значительном создании рабочих мест в городе. Процесс этот очень сложный и во многом зависит от стабилизации экономики республики.

*Беседовал Анатолий ПАНАСЕНКО, сотрудник газеты "Солигорский вестник".*

■ Спажывецкая кааперацыя

## Важкі прыбытак

*Выдатныя смакавыя якасці і прывабны выгляд мае прадукцыя, якую выпускаюць у кандытарскім цэху Капыльскага райспажыўсаюза. Да дзесяці тон хлебабулачных вырабаў і ласункаў выпякаюць штомесячна цімкавіцкія майстры.*

*5,3 мільёна рублёў прыбытку атрымаў у ліпені калектыў швейнага цэха капыльскіх спажыўкааператараў. Пасцельная бялізна, спадніцы, халаты, кухонныя наборы, шторы, сурвэткі карыстаюцца ў пакупнікоў нязменным попытам.*

*НА ЗДЫМКАХ: швачкі Аксана **Міхалевіч** і Наталля **Жыжкевіч** дэманструюць сваю прадукцыю; "салодкія" жанчыны: майстар Алена **Баравік**, кандытары Галіна **Байчык**, Галіна **Мураль**, Тацяна **Карабнёва**.*

*Фота Анатоля БАСАВА.*



## ПОСТНАМІНАЦЫЯ

**Мінулыя субота і нядзеля былі пазначаны духам навізны: праведзена дэнамінацыя беларускага рубля. Што ж кінулася ў вочы?**

І на Камароўскім рынку, і ў магазінах, разлічваючыся з прадаўцамі, касірамі, пры словах: «Трэба 5 тысяч!» ці «Ганіце 10 тысяч!» людзі выкладвалі не 5 ці 10 «акадэмій» (тысячных купюр), а, па ранейшай звычцы, 5 або 10 «зуброў», гэта значыць соценных.

Што зробіш — звычка. Аднак, думаецца, тут бяды вялікай няма. Міне месяц-другі, і ўсё стане на сваё месца. Іншая справа — цэны. Камароўскія гандляры, якія адно моляцца на долар, штодзённа ўважліва прыглядаюцца да яго курса. А дэнамінацыя, як вядома, не ўзняла вагу нашага «зайчыка». Таму спадзявацца, што на мінскай, ды і іншых «Камароўках», нешта адбудзецца на карысць пакупніка, няма ніякіх падстаў.

Наадварот. Зайшоў у нядзелю ў Фрунзенскі універсам. На прылаўку стаяць прыгожыя слоікі балгарскага леча. Цана аднаго — 3 тысячы рублёў. А тыдзень жа назад у гэтым самым магазіне такі самы слоік таго самага леча каштаваў толькі 20 тысяч.

Вядома, на магазінным цэнніку старой цаны, якая павінна быць перакрэслена, няма. Вось так, аказваецца, можна абысці і самы строгі закон.

Да таго ж магу аўтарытэтна запэўніць: прадукт, што знаходзіцца ў слоіку за 3 тысячы, удвая горшы за той, які каштаваў 20 тысяч «зайчыкаў».

*Іван КАВАЛЬ.*

## "КАНСТЫТУЦЫЯ ВЫШЭЙ ЗА ЎСЁ"

**Канстытуцыйны суд рэспублікі адзначыў нядаўна першы юбілей — 100 дзён свайго існавання. Тэрмін невялікі, аднак некаторыя вывады адносна работы новай прававой структуры можна зрабіць ужо сёння. Карэспандэнт Белінфарма пагутарыў з намеснікам старшыні суда прафесарам права Валерыем Ціхіняй.**

***— Валерый Гур"евіч, звычайна пытанне аб планах на будучыню задаюць у канцы. Аднак Канстытуцыйны суд такі малады, што міжволі хочацца задаць гэтае пытанне спачатку.***

— Так, за кароткі тэрмін мы паспелі зрабіць многа, але асноўнае, безумоўна, наперадзе, і на бліжэйшую будучыню ў нас ужо ёсць праграма дзеянняў. Я толькі хачу, крыху адступіўшы ад тэмы нашай размовы, напомніць грамадзянам аб тым, што Канстытуцыйны суд не ёсць арганізацыя, якая займаецца разглядам скаргаў па канкрэтных грамадзянскіх і крымінальных справах і з"яўляецца апошняй судовай інстанцыяй. Я гэта гавару таму, што не паспелі мы пачаць работу, як да нас хлынуў паток заяў і скаргаў па пытаннях, якія не ўваходзяць у кампетэнцыю Канстытуцыйнага суда. Хоць, зрэшты, думку грамадзян у сваёй рабоце мы ўлічваем. Напрыклад, зусім нядаўна, разгледзеўшы скаргі пенсіянераў, якіх звальняюць з работы ў сувязі з дасягненнем імі пенсіённага ўзросту, мы пачалі разгляд справы аб адпаведнасці Канстытуцыі асобных артыкулаў працоўнага заканадаўства. І наогул цяпер у большасці выпадкаў мы дзейнічаем па сваёй ініцыятыве. Так, у бліжэйшы час мы маем намер разгледзець пытанне аб дзеянні нарматыўных актаў, што рэгулююць правы і абавязкі грамадзян, якія не даведзены да іх ведама.

Мы маем намер разгледзець і пытанне аб адпаведнасці Канстытуцыі нарматыўных актаў, якія рэгулююць кампенсацыю ўрону, прычыненага проціпраўнымі дзеяннямі. Прывяду вам канкрэтны прыклад па сутнасці гэтага пытання. Калі, скажам, у вас абакралі кватэру, то дзяржава павінна кампенсаваць вам урон незалежна ад таго, знойдзены злачынца або не. Але ў рэальнасці цяпер вам не кампенсуюць нічога, нават калі злачынца затрыманы, але паспеў ужо вашу маёмасць, груба кажучы, прапіць. Гэта супярэчыць прынцыпам прававой дзяржавы. Мы маем намер выступіць з прапановай аб стварэнні спецыяльнага дзяржаўнага фонду, з якога і праводзіць кампенсацыю ўрону.

***— Гэта ў рэспубліканскім маштабе. Але і на мясцовым узроўні ў нас прававых праблем хапае...***

— На жаль, гэта так. Але мы не маем намеру адступаць і тут. Цяпер, напрыклад, мы вырашылі праверыць на прадмет канстытуцыйнасці рашэнне Мінгарвыканкома, якое абмяжоўвае прыём грамадзян у прафтэхвучылішчы сталіцы на падставе таго, што яны не з"яўляюцца жыхарамі Мінска. Але ў Канстытуцыі ёсць артыкул, які гарантуе кожнаму даступнасць прафтэхадукацыі. Гэта — у прыватнасці. У цэлым жа падзаконныя акты, якія выдаюцца на мясцовым узроўні, выклікаюць сумнае ўражанне. Возьмем, напрыклад, штрафы. У адной вобласці яны адны, у другой — другія, а ў трэцяй — трэція. Таму мы цяпер думаем праверыць на прадмет канстытуцыйнасці Кодэкс Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных правапарушэннях. Тут прававая беззаконнасць поўная.

***— З нашай гутаркі я зразумеў, што неадпаведнасцей Канстытуцыі ў рэспубліканскім заканадаўстве хапае. Але як быць грамадзянам, правы якіх гарантаваны Канстытуцыяй і ўшчамляюцца нейкімі падзаконнымі актамі?***

— Механізм прывядзення заканадаўства ў адпаведнасць з Канстытуцыяй даволі няпросты і працяглы. Законам для гэтага адведзена 2 гады. І мы цяпер імкнёмся разглядаць тыя нарматыўныя акты, якія прыняты пасля прыняцця Канстытуцыі або тыя, разгляд якіх не цярпіць адкладу. 2 гады з чыста чалавечых пазіцый — гэта, зразумела, многа, але ж нарматыўныя акты звязаныя паміж сабой як крывяносныя сасуды. Адмяніўшы ці змяніўшы адзін, трэба мяняць другі, трэці, чацвёрты... Для гэтага патрэбны час.

Што ж датычыцца заканадаўства ў цэлым, то і юрысты, і юрыдычныя асобы, і простыя грамадзяне ў сваіх дзеяннях павінны кіравацца толькі Канстытуцыяй. Не ўсё ў нас цяпер гладка ў нашым заканадаўстве, але Канстытуцыя вышэй за ўсё.

***— І апошняе, можа, крыху бястактнае пытанне: ці не апасаецеся вы націску з боку ўладных структур і што вы будзеце рабіць, калі гэта адбудзецца?***

— Канстытуцыйнаму суду адведзена асобная і вельмі высокая роля ў прававой структуры дзяржавы, і я ўпэўнены ў тым, што і я, і іншыя члены суда з гонарам нясуць і будуць несці гэтую нялёгкую ношу. І, нягледзячы ні на якія акалічнасці, мы будзем стаяць на варце Канстытуцыі. Мы прынялі Кодэкс гонару суддзі Канстытуцыйнага суда і ганьбіць сябе не збіраемся.

*БЕЛІНФАРМ.*

■ Думкі ўслых

# ЛОДКА... БЕЗ ДНА

**Сёння мы сытыя па горла "перабудовай", "рэвалюцыйнымі абнаўленнямі". Не заўважылі, як разбурылі тое, што стваралі дзесяцігоддзямі. А ўзамен?**

Нядаўна на сажалцы «Дзікая» ў Нясвіжы тапіўся чатырнаццацігадовы хлопец. Яго можна было яшчэ выратаваць, бо ён доўга трымаўся на вадзе, «хапаўся за саломінку». Плыць на сярэдзіну вадаёма ніхто не адважыўся. Пажылы дзядзька ў роспачы, кульгаючы, бегаў па беразе: «Людзі, дайце лодку, ратуйце!»

Нехта кінуўся быў туды, дзе шмат гадоў знаходзілася лодачная станцыя. Але ж там цяпер «ні кала, ні двара». Хлопец утапіўся. Аказваецца, ён прыехаў з Сібіры ў госці да бабулі. І вось такая трагедыя.

Міжволі думаецца: гарадскія ўлады знайшлі дзесяткі мільёнаў рублёў, каб аздобіць паркавую зону, наладзіць сапраўдны салют у гонар 770-годдзя Нясвіжа. А вось захаваць сціплую лодачную станцыю, якая служыла людзям, не змаглі. Растрэслі, раскідалі ўсё: і прычал, і зімовае сховішча для інвентару, і домік, дзе на цвёрдым тапчане адпачываў лодачнік.

Няўжо некаму ўсё гэта замінала? Тыя ж лодкі, усе ведаюць, трапілі ў рукі «прыватызатараў». І сёння яны на суседніх вадаёмах па начах браканьераць, знішчаюць рыбу. Шлях да пераўтварэнняў? Не. Звычайная анархія, усёдазволенасць.

У любым цывілізаваным грамадстве ёсць пэўныя законы, парадкі. На варце іх стаяць улады, вялікія і малыя. Мы ж у апошнія гады чакаем цуда: вось нехта прыйдзе, дужы і ўсёмагутны, ва ўсім разбярэцца.

Крыўдна! Быў нядаўна ў вёсцы Мервіны Клецкага раёна. Прадавец сельмага расказала, што прыехалі на іншамарках хлопцы і скупілі ўсе косы (мусіць, на іх дзесьці дэфіцыт). Сваім жа вяскоўцам нічога не засталося. Скажыце, няўжо нельга навесці парадак у гандлі, каб дзялкі ад бізнесу не забіралі ў нас з-пад носа тыя рэчы, на якіх дзесьці за «бугром» можна добра пагрэць рукі?

Зацягнуўся перыяд чакання цудаў! Элементарныя каштоўнасці, якімі карысталіся ўсе мы, размываюцца ўшчэнт. І не толькі таму, што «вялікі дэфіцыт на энерганосьбіты», але і таму, што людзі перастаюць верыць у сілу ўлады. Чыноўнікі ўсіх рангаў, робячы выгляд, што «хварэюць за народ», паспелі нахапаць сабе грамадскага дабра пад самую завязку. І ўсё гэта навідавоку ў тых, хто ледзьве зводзіць канцы з канцамі.

У Нясвіжы, ды і іншых раённых цэнтрах, начальнікі з «белых дамоў», тыя, хто мае ўладу, узвялі і ўзводзяць асабнякі. Пра такія не мог марыць нават сёй-той з князёў.

Чаму перамог на выбарах Лукашэнка? Ды таму, што ён якраз «капнуў» у глыбіню жыцця, паабяцаў, што выкарчуе мафію, карупцыю. Дай Бог, каб гэта здзейснілася. Бо толькі сляпыя сёння не бачаць, як багацеюць адны і бяднеюць другія.

Зайдзіце ў народны суд любога раёна. Вам пакажуць дзесяткі спраў аб крадзяжах веласіпедаў, штаноў, фуфаек... Дарэмна станеце дабівацца, каб даволілі пазнаёміцца з судовымі справамі «дзялкоў новай хвалі», прыхватызатараў. Яны, што тыя ўюны, вышмыгваюць з сетак праваахоўных органаў.

Не ідзе з галавы выпадак. У калгасе «1 Мая» Нясвіжскага раёна даярка, удава, папрасіла, каб сталяр «залапіў» у яе дах у сенцах. Той узяў на пілараме некалькі дошак і ўмомант выканаў заказ. Зразумела, дошкі тыя трэба было выпісаць, заплаціць за іх грошы. Але ж можна было пачалавечы вырашыць гэты канфлікт. Старшыня калгаса «пацягнуў» вінаватых у народны суд. Сам жа ён, як высветліла пракуратура, налева і направа разбазарваў калгаснае дабро.

Раённы Савет тады не даў згоды на пазбаўленне яго дэпутацкага мандата. (Зроблена гэта было пазней, калі старшыня зноў «залез па вушы» ў аферы). Атрымліваецца, адным можна красці і нажывацца, а другім за невялічкія «адхіленні ад закону» тут жа трэба садзіцца на лаву падсудных?

Мне здаецца, што антыкарупцыйным органам, якія ствараюцца ў рэспубліцы, будзе вельмі нялёгка «ўзяць за кадык» навяўленых буржуа. Чаму? Ды таму, што яны не такія дурні, як некаму здаецца. Ужо там-сям уладальнікі дзвюх-трох аўтамашын, асабнякоў і вялікіх кватэр «пераафармляюць» жыллё і маёмасць на старых бацькоў, сыноў-падлеткаў... Умомант робяцца бедненькімі, хоць ты іх па галоўцы пагладзь ды зноў дай мільённыя крэдыты пад смехатворныя працэнты. Ужо мяняюць пласцінку чыноўнікі ў «белых дамах». Кажуць, што трэба некага скарачаць, некага «прыструньваць», каб лепш працаваў. Самі ж «тузы» і не думаюць «злазіць з даха», хочуць патрапіць у «рэчышча прэзідэнта».

Адзін мой знаёмы, механізатар з саракагадовым стажам, які зарабіў за сваё жыццё толькі радыкуліт і пакойчык у шматкватэрным доме, сказаў «па сакрэту»: «Пакуль ва ўладзе будуць хамелеоны і прыстасаванцы, пра добрыя перамены і не думай».

Хочацца верыць, што новая прэзідэнцкая «хваля» паступова змые з берагоў жыцця ўсякае смецце. Людзі спадзяюцца на гэта. Бо лодка без дна не паплыве.

*Канстанцін ПРЫЁМКА.*

■ Пісьмо-падзяка

## КАЛІ ТАКІЯ ЛЮДЗІ ЁСЦЬ

Сёння толькі і чуеш: «Цяжка жыць. Цэны высокія. Прадукты дарагія. Тавараў не хапае...» У складаным становішчы апынуліся дашкольныя і школьныя ўстановы, дзіцячыя дамы і школы-інтэрнаты. Многім з іх не выжыць, каб не дапамога дабрачынных арганізацый, камітэтаў, фондаў. Мне да іх даволі часта прыходзіцца звяртацца. І заўсёды дапамогуць. Хочацца выказаць словы шчырай падзякі работнікам абласнога савета аб"яднання галіновых прафсаюзаў М.Хаванскаму, З.Рымарчук, І.Паўлюшчанка, Н.Качубеевай, якія неаднойчы дапамагалі нашаму дзіцячаму дому ў набыцці пуцёвак на лячэнне і аздараўленне дзяцей-сірот. І падарункі нашы дзеці атрымлівалі ад гэтага аб"яднання.

Мацярынскія клопаты праяўляюць аб Дулебскім дзіцячым доме старшыня абласнога аддзялення Беларускага дзіцячага фонду Галіна Пранько і яе намесніца В.М.Ермалаева. Цукеркі, лекі, дзіцячае харчаванне, адзенне, пуцёўкі за мяжу — вось іх канкрэтная дапамога дзецям-сіротам.

Чулыя работнікі і ў абласным фондзе міласэрнасці і здароўя. Нядаўна яны наведалі наш дзіцячы дом з групай вернікаў аднаго з прыходаў Мінска. Была цёплая сустрэча, былі песні, было частаванне. Дарэчы, з гэтага фонду мы таксама атрымлівалі сокі, прадукты харчавання, вітаміны. Кіруе гэтай арганізацыяй Святлана Гайко.

Магчыма, нехта скажа:"Гэта ж іх абавязак — дапамагаць..." Так, гэта іх абавязак, але колькі яны ў сваю справу ўкладваюць дабрыні, чуласці, мацярынскасці, чаго дзецям-сіротам так не хапае!

Калі супрацоўнічаеш з такімі людзьмі, то з"яўляецца надзея на лепшае ў нашым жыцці, на тое, што пераадолеем цяжкасці. Вялікі дзякуй вам усім!

*Мікалай ГРУДЗІНСКІ,*
*дырэктар Дулебскага дзіцячага дома Бярэзінскага раёна.*

Нядаўна ў Пухавіцкім райвыканкоме быў сведкам размовы двух дырэктараў сельскіх школ. Аб самым розным яны гутарылі. Пачуў ад аднаго з іх тады і такое:

— Памятаеш, дружа, той час, калі на нашых школьных рахунках былі грошы? А цяпер кілаграм фарбы няма за што купіць. Нібы разбуральны тайфун пранёсся над сістэмай адукацыі.

— Чаму б не памятаць? Бязбеднае было жыццё. Кіраўнікі самых розных рангаў кляліся, што настаўнікаў яны не дадуць у крыўду, будуць любіць як родных дзетак.

Менавіта тады я і вырашыў пацікавіцца ў аддзеле адукацыі райвыканкома: з якім настроем там сустракаюць новы навучальны год?

— Мы ў літаральным сэнсе пастаўлены на калені. І прадчуванне такое, што наўрад ці падымемся, хаця ў «вярхах» нас пераконваюць, што збядненне часовае, — пачуў ад намесніка загадчыка аддзела адукацыі М.А.Зубка.

Міхаіл Аляксандравіч расказаў, што да новага навучальнага года збольшага змаглі падрыхтавацца толькі тыя школы, у якіх былі ў запасе будаўнічыя матэрыялы, фарба. Гэта — Грэбенская СШ (дырэктар І.Л.Ляхновіч), Рудзенская СШ (дырэктар П.Г.Елісееў), Блужская СШ (дырэктар Р.А.Кніга) і некаторыя іншыя. У гэтых навучальных установах склаліся цесныя сувязі з мясцовымі гаспадаркамі, хаця і іх касы цяпер не назавеш багатымі «звярынцамі». Але чым могуць, дапамагаюць. А ў астатніх што? Паслухаем некаторых іншых прадстаўнікоў адукацыі з гэтага раёна.

**М.І.Дарошчанка,** дырэктар Навасёлкаўскай базавай школы:

— Я прыехаў у Пухавіцкі раён з Брагіншчыны — чарнобыльскі перасяленец. Паверце, такога старэнькага памяшкання, у якім цяпер працую, у нашай Гомельскай вобласці не бачыў. Расказваюць, што яно пабудавана ў 1947 годзе. Даўно патрабуе капітальнага рамонту. Хацелася б абкласці цэглай, абгарадзіць, каб школьны двор не быў прахадным. І сёння мне адказалі, што няма сродкаў. Будзем яшчэ адзін год пакутаваць у цеснаце і холадзе.

**А.Б.Куляй,** дырэктар Зазерскай СШ:

— А наша школка ўзведзена ажно ў 1934 годзе. 14 клас-камплектаў. Таму вымушаны займацца ў дзве змены. Цесната, якой свет не бачыў. Колькі было радасці 5 гадоў таму назад, калі ў нашай вёсцы запланавалі будаўніцтва новай школы. Некалькі разоў работы перапыняліся з-за адсутнасці сродкаў. Ды «каробку» вучэбнага корпуса ўсё ж удалося ўзвесці. Сёлета на яго заканчэнне нам было выдзелена адзін мільярд 800 мільёнаў рублёў. Ды ўсяго некалькі дзён мы радаваліся. Як высветлілася, тыя грошы аказаліся дзесьці больш патрэбныя. Вось ужо гэты «трышкаў кафтан» з байкі Крылова. І калі ён выйдзе з моды?

Цяпер на аб"екце — ні душы. Няма чым плаціць будаўнікам за работу. А яе — непачаты край.

**В.М.Ігоніна,** арганізатар аддзела адукацыі:

— У вельмі цяжкім стане знаходзяцца дашкольныя ўстановы. У іх няма сродкаў хаця б на тое, каб купіць для дзяцей самыя звычайныя цацкі. Дарэчы, іх у магазінах днём з агнём не знойдзеш. Кажуць, камерсанты ўсё ў Польшчу вывезлі.

Было прынята рашэнне аб падключэнні дзіцячага садка № 3 райцэнтра да цеплатрасы сярэдняй школы № 4. Адлегласць паміж імі сто метраў. Палову яе з горам-бядою прайшлі, на астатнюю няма труб. Адным словам, не пачуецца галасоў першакласнёўскага свята ў гэтай дзіцячай установе. Ды ці толькі там?

Ад многіх людзей у той дзень давялося выслухоўваць пералік праблем, якія перашкаджаюць школам нармальна працаваць, выконваць сваю пачэсную місію. Нярэдка даходзіць да анекдатычнага. Вырашыў аддзел адукацыі райвыканкома адрамантаваць Селецкую сярэднюю школу. Яшчэ па старых цэнах закупілі 500 лістоў шыферу, 5 тон цэменту, 7 кубаметраў дошак. Завезлі. Тут як тут старшыня мясцовага калгаса А.В.Верашчака.

— Даражэнькія, пазычце мне гэтыя будаўнічыя матэрыялы. Як закончыце навучальны год, я вам такі рамонт адштукую, што з усёй рэспублікі будуць ехаць дзівіцца,

# ЦІ ВЫЙДЗЕ З МОДЫ "ТРЫШКАЎ КАФТАН",

## або Каму паднімаць з каленяў нашу школу?

— узмаліўся Анатоль Васільевіч.

Паверылі. І ўжо некалькі гадоў не могуць спагнаць сваё. Як бачыце, ёсць і такія «клапатліўцы» пра школу, пра дзетак.

І Дукорская СШ лёгкая на ўспамін. Сем гадоў назад ёй былі выдзелены грошы на падключэнне да цеплатрасы. Як і належыць, заплацілі за трубы, завезлі іх. А яны, такія жаданыя, кудысьці зніклі, нібы ў спякотным паветры растварыліся. Ходзяць чуткі, што задачу з такім невядомым толькі пракурор можа рашыць. Што ж, няхай рашае. На тое ён і пракурор...

А хіба ж нармальна, што да гэтага часу ні ў адну са школ раёна не завезена паліва? Ужо тры гады не завозіцца яно і ў дамы сельскіх настаўнікаў-пенсіянераў. Ці ж не здзек гэта з людзей, якія па некалькі дзесяцігоддзяў свайго жыцця аддалі школе?

...З такімі невясёлымі думкамі я вяртаўся са сваёй чарговай камандзіроўкі. Не выключаю, што хтосьці ўслед мне зласліва прабурчыць: «Навошта карэспандэнт адмоўныя факты так старанна запісваў — у нас жа грошай няма, каб у паляпшэнні матэрыяльнай базы зрабіць наперад хоць нейкі крок».

Разумею, работнікам адукацыі цяпер вельмі цяжка. Зразумець бы мне яшчэ і тое, з чыёй ласкі, за чые сродкі Міншчына так багата абкатэджылася, што куды ні кінь позірк — трохпавярховыя гмахі, абнесеныя платамі, якія гарматным стрэлам не праб"еш. На ўзвядзенне такіх шыкоўных замкаў ёсць і грошы, і будаўнічыя матэрыялы, і самая розная тэхніка. Такі размах не па кашальку нават акадэміку. А вось перад дырэктарам школы, куды б ён ні пастукаўся, заўсёды разводзяць рукамі, тым самым падкрэсліваючы, што няма чаго даць беднаму. Дакуль жа ён будзе хадзіць такім гаротнікам? Хто ведае, адкажыце мне — бацьку дзвюх настаўніц. Буду шчыра ўдзячны.

*Уладзімір КОБРЫН.*

■ Спадчына

## ТАЛЕНАВІТЫЯ ДЗЕЦІ

Трапіўшы ў Міханавіцкую СШ Мінскага раёна, можна пазнаёміцца з дзіцячымі работамі: вышыўкай, вырабамі з саломкі, цацкамі з футра... Тут заўсёды рыхтуюць і цікавыя канцэртныя праграмы.

— Адраджэнню нацыянальнай культуры мы надаём вялікае значэнне, — зазначыў дырэктар У.Д.Каліноўскі. — Нашым дзецям цікава, прыемна спяваць старадаўнія песні. Дарэчы, не толькі дзеці беларусаў да нас у школу ходзяць. У пасёлку Міханавічы працуе шмат газавікоў. Сярод іх — рускія, украінцы. Іх дзеці палюбілі.

Кожны настаўнік гэтай школы ахвотна дзеліцца з дзецьмі сакрэтамі любімых захапленняў. Маладая настаўніца Вольга Сезень вучыцца на матэматычным факультэце ў педінстытуце, разам з тым вырашыла падмяніць сваю матулю, якая займаецца саломапляценнем з вучнямі, пайшла на курсы. Душа дзяцей і арганізатар — Таццяна Мішчанка. З адным з такіх педагогаў, кіраўніком знакамітай "Калыханкі" Ларысай Мікалаеўнай Рыжковай мы і гутарым:

— Нашы дзеці любяць спяваць, цікавяцца рознымі святамі, з захапленнем р аскажуць, што на іх рабілі, што пяклі. Мы ходзім з імі і збіраем старадаўнія песні ў старажылаў. Ахвотна імі дзеліцца жыхарка вёскі Бардзілаўка Надзея Яўхімаўна Корсік. І, думаю, сваім самабытным выступленнем мы надалі смеласці іншым узяцца за такую ж справу. Дарэчы, нотнай граматай я не валодаю, запісваю песні, а мелодыю запамінаю на слых. Так што трэба толькі з жаданнем за справу ўзяцца. Галасістых, таленавітых дзяцей у раёне шмат. Важна толькі, каб хтосьці іх прыкмеціў і далучыў да адраджэння нацыянальнай спадчыны роднай Бацькаўшчыны.

*Марыя МАЦЕЙКА*

*Сяржантам закончыў Вялікую Айчынную вайну былы артылерыст Мікалай Якаўлевіч* ***Чарапок*** *(на здымку). Пасля Перамогі вярнуўся ў родныя краі, працаваў палязодам, на пілараме ў будаўнічай брыгадзе, загадваў свінафермай.*

*Грудзі ветэрана ўпрыгожваюць ордэн Айчыннай вайны II ступені, медалі "За адвагу" і "За абарону Ленінграда". М.Я.Чарапок часта сустракаецца з моладдзю калгаса "Залужжа" Старадарожскага раёна.*

*Фота Анатоля БАСАВА.*



■ Памяць

# ТРАГЕДЫЯ

## разыгралася 50 гадоў назад у вёсцы Жукаў Барок Стаўбцоўскага раёна

Не адно стагоддзе ў цудоўным куточку, на беразе срэбраводнага Нёмана, туліцца вёсачка Жукаў Барок. Гэтае паселішча зведала шмат самых розных перыпетый — добрых і дрэнных. Усе яны так ці інакш засталіся ў народнай памяці. Тут радзіма вядомага ў сярэднявеччы філосафа Саламона Маймана, крыніца творчага натхнення паэтаў і пісьменнікаў мінулага стагоддзя — напрыклад, Адама Плуга, аўтара вядомай песні «Когда я на почте служил ямщиком» Уладзіслава Сыракомлі. Тут пачуеце звесткі-легенды і аб тым, што гэтае паселішча неаднойчы руйнавалася, станавілася аб'ектам ваенных сутычак. Вайна, як вядома, заўсёды прыносіць шмат бед і няшчасцяў, забірае людскія жыцці. Пра гэта яскрава сведчыць магіла шведскіх салдат з часоў далёкай Паўночнай вайны. Ставяцца вяскоўцы да гэтага месца з пашанай, расказваюць сваім нашчадкам пра колішнія падзеі.

Аднак тое, што спакон веку для жукавабаркоўцаў лічылася святым, на жаль, не было правілам у чарговых прышэльцаў на тамтэйшую зямлю — фашыстаў, якія ўчынілі 50 гадоў таму назад крывавую трагедыю ў вёсцы.

Напачатку пра бяду нічога не гаварыла. Адгрымела блакада, якую немцы наладзілі партызанскім злучэнням, што базіраваліся ў лясах Рудзьмянска-Налібацкай зоны. Перажыўшы яе, жукавабаркоўцы ў той дзень займаліся сваімі сялянскімі клопатамі: рабілі па гаспадарцы, кармілі жывёлу — было якраз папаўдні. Той-сёй бавіў час на Нёмане, як, скажам, шматлікая вясковая дзятва ды дваццацігадовы іх аднавясковец Юзік Мазюкевіч, заўзяты і адмысловы лавец рыбы пад вадой рукамі, чыю здольнасць не раз выкарыстоўвалі партызаны, вымушаючы хлопца адшукваць ім у Нёмане ці па азярынах пакінутую пры адступленні чырвонаармейцамі зброю і боепрыпасы.

Магчыма, гэты дзень і застаўся б у гісторыі Жукавага Барка нічым не прыкметны. Аднак трэба ж было так стацца, што на левым беразе Нёмана паказалася група пешых узброеных немцаў. Яны затрымаліся крыху воддаль ад вёскі, пільна ўглядаліся ў яе праз біноклі. Ды здарылася так, што на адным з двароў прагучаў стрэл. Немцы распачалі мінамётную страляніну ў адказ. Увесь агонь яны сканцэнтравалі на сценах вясковага млына. Затым карнікі перабраліся ўброд. Не знайшоўшы ў пабудове нікога, фашысты палічылі, што па іх страляў Юзік Мазюкевіч, які купаўся на Нёмане, а пасля пабег дадому — іх хата была крайняя. Схапіўшы хлопца, ворагі павалаклі яго да млына. Юзікава бабуля, Фёкла Сушч, зразумеўшы, што можа здарыцца нядобрае, пайшла ратаваць унука, хацела давесці немцам, што хлопчык не мае ніякіх адносін да партызан. За ёй, на сваю бяду, увязаўся і малодшы яе ўнук Сашка...

«Там, ля млына, усё адбылося імгненна, — гэта ўжо з успамінаў Міхаіла Васільевіча Мазюкевіча, які жыве цяпер у вёсцы Казейкі. — Фашысты іх пастралялі. Разам з маімі роднымі былі забіты млынар Іван Шпакоўскі са сваёй маці Вандай Шпакоўскай, жыхар недалёкай вёскі Лапкі Піліп Янушка, які прынёс на млын жыта, каб перамалоць яго. Праз некаторы час да нас у хату зайшоў немец і загадаў накідаць на воз кулёў саломы і адвезці яе да млына. Паколькі конь пасвіўся далёка ад вёскі, мы з дзедам упрагліся ўдвух і пакацілі той воз. Скінуўшы кулі саломы ў млын, мы думалі, што назаўсёды застанёмся там, як і нашы бабуля, браты, млынар з маці і чалавек з Лапкоў, у вогненным пекле — у гэты час гарэла ўжо драўляная прыбудова да млына, дзе знаходзіліся целы забітых. Аднак немец загадаў нам выйсці. Мы выходзілі, не верачы, што застанёмся жыць. Ён падпаліў салому і зачыніў дзверы...»

Пажар вяскоўцы кінуліся тушыць адразу, як толькі карнікі пакінулі вёску. На папялішчы адшукалі астанкі ахвяр. Пахавалі іх на вясковых могілках.

...У пасляваенны час жукавабаркоўцы аднавілі свой млын. І сёння ён дзейнічае.

Нядаўна на будынку гэтага млына ва ўрачыстай абстаноўцы адкрыта мемарыяльная дошка, якая нагадвае аб адной з трагічных старонак гісторыі гэтай вёскі.

*Сяргей ГАЛОЎКА.*

Фельетон

# НЕ ЖАРТУЙ З "ФАНТАНАМ"

Цуды, як вядома, здараюцца ў казках. Праўда, іншы раз і рэальнае жыццё такі выкрунтас падкіне, што толькі трымайся. Вось хоць бы такі выпадак. На станцыі Мінск-Сартавальны раптам заструменіў бензінавы фантан. Адкрылі гэтае «радовішча» У.Касцюковіч, М.Тармаеў і В.Люты. Не, геолагамі яны ў працоўных кніжках не значацца. У.Касцюкевіч, напрыклад, працаваў дзяжурным па станцыі Мінск-Сартавальны, М.Тармаеў — саставіцель паяздоў, а В.Люты — электрамеханік на гэтай жа станцыі. Аднак, па ўсім відаць, цягу да геолагаразведачных работ мелі адчувальную. Праўда, «радовішчам» бензіну маркі А-76 аказалася звычайная чыгуначная цыстэрна, а фантанам — шланг, па якому бензін цурчэў у каністры.

Гэтая тройка хутка асвоіла сумежную прафесію «геолага»: каб аблегчыць здабычу дэфіцытнага паліва, распрацавалі спецыяльную сістэму ўмоўных знакаў. Касцюкевіч па натурнаму лісту, што выдаецца ЭВМ на цэнтральным дыспетчарскім пасту, вызначаў цыстэрны, якія запоўнены бензінам. Затым гэты код перадаваў Тармаеву. Тармаеў у сваю чаргу пры руху саставу па «горцы» спыняў яго. А ў гэты момант «геолагі» ўжо шыбавалі да цыстэрны з каністрамі ў руках. Яны так налаўчыліся высмоктваць з цыстэрнаў бензін, што было дастаткова нейкіх 15—20 хвілін, каб «правярнуць» справу. Напоўненыя каністры Касцюкевіч і Тармаеў вывозілі за межы станцыі на ўласных аўтамабілях. З Лютым «разлічваліся спіртным».

...У тую змену ўсё ішло, як і раней, па адпрацаванаму сцэнарыю. Манеўровы цеплавоз падчапіў групу вагонаў, у сярэдзіне якіх знаходзілася цыстэрна з бензінам. Састаў загналі на «горку». Тут ужо стаяў Люты з каністрамі. Калі састаў спыніўся, Тармаеў хуценька ўскараскаўся на цыстэрну. Люты падаў шланг. І бензін заструменіў у падстаўлены посуд. Але раптам каля здабытчыкаў, быццам з-пад зямлі, выраслі стралкі ваенізаванай аховы. Убачыўшы ў іх руках зброю, «геолагі» зразумелі — супраціўляцца няма сэнсу. Акрамя васьмі каністраў побач з цыстэрнай стаяла металічная бочка ёмістасцю амаль 200 літраў. Калі ж у цэлым быў падлічаны ўрон, які нанесла Мінскаму аддзяленню чыгункі «геолагаздабыча» памянёных асоб, то ён аказаўся не такі ўжо і малы — 3 мільёны 603 тысячы рублёў.

Як ні дзіўна, але на станцыі Мінск-Сартавальны хапае прастору для розных спецыялістаў-сумежнікаў. З бізнесавым ухілам. Адны, як ужо гаварылася, маюць цягу да «геалагічных» пошукаў, другія — да «археалагічных». Праўда, у адрозненне ад сапраўдных археолагаў яны не пералапачваюць зямлю ў надзеі знайсці які-небудзь сярэдневяковы чарапок. Іх прыцягваюць рэчы больш сучасныя. «Археалагічным» даследаванням падвяргаюцца, як правіла, вагоны або кантэйнеры.

Аб чым сведчыць дзейнасць работнікаў Мінскай стралкова-пажарнай каманды Д.Скуратовіча, А.Андрайчука, А.Лойкі, А.Крываручанкі. Аб"ектам іх «экспедыцыі» стаў кантэйнер з асабістымі рэчамі грамадзяніна Гайковіча. Вось што аб гэтым паведамляе «навуковы» дакумент пад сціплай назвай «абвінавальнае заключэнне». «Скуратовіч, заступіўшы на сутачнае дзяжурства і маючы запас свабоднага часу з 11 да 19 гадзін, прасачыў ад"езд пацярпеўшага Гайковіча з сям"ёй на ўласным аўтамабілі з 4-га парка станцыі Мінск-Сартавальны. З дапамогай спадручных сродкаў зламаў запорнае прыстасаванне і прыадчыніў дзверы ў кантэйнер..." Ад убачанага ў Скуратовіча вочы разбегліся. Аб сваёй знаходцы ён паведаміў Лойку, Андрайчуку і Крываручанку. Угаворваць нікога не прыйшлося... «Скарб», які здабылі гэтыя «археолагі», пацягнуў больш чым на 18 мільёнаў рублёў... і на адпаведны артыкул Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь.

Здаецца, Казьма Пруткоў раіў закрыць фантан і даць яму адпачыць. У гісторыі ж з «геолагамі» і «археолагамі» лепш, відаць, было б параіць не жартаваць з гэтым самым «фантанам». Клопатаў пасля такіх жартачак не абярэшся.

*Уладзімір МАЦЭЛЬ,*
*намеснік начальніка аддзела Пракуратуры Рэспублікі Беларусь.*
*Мікалай ЖУЧКО,*
*кар. "Мінскай праўды".*

Крымінал

## ЗЛАДЗЕІ Ў МАСКАХ

Відаць, ведалі зладзеі, дзе можна пажывіцца, калі вырашылі абрабаваць адну з кватэр г.п.Урэчча-2, што ў Любанскім раёне. А каб гаспадыня не нарабіла шуму, звязалі яе. Самі ж яны былі ў масках.

Пасля начнога візіту няпрошаных гасцей гаспадыня недалічылася відэамагнітафона, тэлевізара, футра з нутрыі, залатога ланцужка, іншых каштоўных рэчаў і грошай.

*Анатоль ГАЛУБОВІЧ.*

